

# ДОБРЫ ВЕЧАР

Добрый вечер

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА

1993 ВЕРАСЕНЬ 23 ЧАЦВЕР

№ 180 (615)

Цана 10 рублёў


## СТАЛІЧНАЯ ХРОНІКА

*ПА ПАВЕДАМЛЕННЯХ КАРЭСПАНДЭНТАЎ «ДВ», АГЕНЦТВАЎ РІД, БЕЛАПАН, БЕЛІНФАРМ*

### *Радзівіл на спадчыну не прэтэндуе*

*У Нясвіжы, Міры і Мінску пабываў Антоній Радзівіл — прадстаўнік славутага ў Беларусі магнацкага роду.*

*Адбыліся яго размовы са старшынёй Нясвіжскага райвыканкама, дэпутатам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Дражным, намеснікам міністра культуры Уладзімірам Гілепам, прэзідэнтам Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Адамам Мальдзісам, падчас якіх абмяркоўваліся перспектывы аднаўлення Нясвіжскага замка, стварэння там музейна-асветнага комплексу, развіцця Нясвіжа як турыстычнага цэнтра.*

*Антоній Радзівіл у якасці прадстаўніка вядомай фірмы «Шэл Кэмікл» падкрэсліў, што ён і яго сям'я прыехалі ў Беларусь не дзеля таго, каб прэтэндаваць на нейкую спадчыну, а каб садзейнічаць пераўтварэнню Нясвіжа ў буйны міжнародны культурны асяродак.*

*Госць таксама выказаў зацікаўленасць, каб у Беларусі неўзабаве адкрылася прадстаўніцтва яго фірмы, якая забяспечвае запраўку і абслугоўванне аўтамашын.*

Святлана КУЛІКОВА.

□ ФОТОФАКТ

**Председателю Верховного Совета Республики Беларусь Станиславу Шушкевичу вручил верительные грамоты Чрезвычайный и Полномочный Посол Ирландии в Республике Беларусь Патрик Маккэйб.**

**НА СНИМКЕ: во время церемонии вручения.**

**Фото Владимира ВИТЧЕНКО, БЕЛИНФОРМ.**



## СВАБОДА АД ПРАЦЫ ПРЫ ГАРАНТАВАНЫМ ПРАВЕ НА ПРАЦУ

Выканаўчы камітэт Свабоднага прафсаюза Беларусі выступіў з заявай у сувязі з сітуацыяй, якая склалася на малым дзяржаўным прадпрыемстве «Будіндустрыя» (г.Мінск).

З 24 жніўня 1993 года, як сказана ў дакуменце, супрацоўнікі «Будіндустрыі» «пазбаўлены магчымасці ўстаць на свае рабочыя месцы. Прычынай гэтага з'явілася ўмяшанне ў справы працоўнага калектыву былога в.а. Генеральнага пракурора Рэспублікі Беларусь У.К.Кандрацьева, які накіраваў у органы міліцыі і ніжэйстаячыя пракуратуры ліст з просьбай аб «вызваленні» тэрыторыі прадпрыемства ад працоўных. Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Шушкевічам С.С. назначана праверка абгрунтаванасці прынятых у адносінах да дзяржпрадпрыемства рашэнняў. Правядзенне праверкі даручана Генеральнаму пракурору Рэспублікі Беларусь Шаладонаву В.І. Да гэтага часу пытанне не вырашана».

Выканкам Свабоднага прафсаюза выказаў сумненне ў магчымасці вырашэння гэтага пытання сіламі супрацоўнікаў Пракуратуры Беларусі. Выбар выканаўцаў, валакіта ў вырашэнні канфлікту, на думку кіраўніцтва прафсаюза, параджаюць сумненне ў тым, што ў Беларусі наогул існуе які-небудзь ЗАКОН.

Антон АНДРОСАЎ.

□ АДРАДЖЭННЕ

## «ЛЮБІЦЬ РАДЗІМУ, ШАНАВАЦЬ РОДНУЮ МОВУ»

Выставу пад такою назваю можна наведаць сёння (дарэчы, толькі сёння!) у Палацы культуры аўтамабільнага завода. Падрыхтаваў яе Анатоль Белы, чалавек добра вядомы, старшыня клуба «Спадчына». Больш таго, ідэя такой імпрэзы выношвалася даўно. На працягу пяці гадоў, спакваля, падбіраліся экспанаты, а гэта каля сямідзесяці твораў мастацтва. Прычым, прысвечаны яны абароне беларускай мовы. Прадстаўлены будуць выказванні дзеячаў культуры на гэтую тэму і палотны мастакоў. «Выстава гэтая ў нашым жыцці, па сутнасці, — унікальная з'ява. Бо многія яе экспанаты з'явяцца перад наведвальнікамі ўпершыню, — расказаў нашаму карэспандэнту Анатоль Белы. — Ніколі нідзе не выстаўляліся, напрыклад, партрэты Наталлі Арсеннневай або Ларысы Геніюш. Яны, дарэчы, папярэдне замаўляліся нашым вядомым беларускім мастакам. Згаданы ўжо партрэт Геніюш напісаў Герус. Прывяду яшчэ некалькі прозвішчаў мастакоў — Яўген Ціхановіч, браты Басалыгі, а сярод тых, каго ўвасобілі жывапісцы ў сваіх творах — Лёсік, Шантар».

Застаецца сказаць, што выстава з'явілася дзякуючы дапамозе гарадской рады ТБМ, мясцкама МАЗа. Мяркуецца, што на яе адкрыцці выступіць Васіль Быкаў.

Але той, хто прыйдзе ў гэты вечар у Палац культуры, не пашкадуе: па той прычыне, што зможа пабыць на канцэрце ансамбля «Сябры». Крыху прыадкрыем заслону і паведамім, што многія песні прагучаць для гледачоў упершыню. А асаблівую цікаўнасць, напэўна, выклікае новы цыкл песень на тэксты вершаў беларускіх паэтаў-эмігрантаў. Ну, а клуб «Спадчына», як заўсёды, выступіць са сваім гімнам «Жыве Беларусь», аўтарамі якога з'яўляюцца Галіна Смоляк і Анатоль Зэкаў.

І галоўнае. Усе гэтыя імпрэзы — састаўныя часткі аднаго ўрачыстага мерапрыемства — вечара, прысвечанага Дню машынабудаўніка (само свята, як вы разумееце, прыпадае на выхадныя). Таму дадзеная акцыя, якую сумесна праводзяць Таварыства беларускай мовы і аўтазаводцы, гэта яшчэ адно слова ў падтрымку і абарону Адраджэння.

Іосіф ЯНУШКАЎ




## ЗАЎТРА «ПРЫЙДЗЕ» ФЕСТЫВАЛЬ

Надзея ДЭКОЛА.

*... Яны жывуць сярод нас, маюць тыя ж клопаты і хваляванні і мараць, таксама як і мы, аб шчасці. Яны жывуць сярод нас, але жыццём, зусім не падобным да нашага. Бо яны — інваліды Вялікай Айчыннай, інваліды з дзяцінства, інваліды Афганістана і Чарнобыля, а яшчэ — дзеці-інваліды. Але мы не маем «права падзяляць людзей на «тых» ці іншых». Бо аб чалавеку гавораць не яго знешні выгляд ці фізічныя магчымасці, а чалавечая сутнасць, пэўныя здольнасці, магчыма, талент. Сярод інвалідаў шмат хто малюе, піша вершы, песні, стварае разнастайныя цудоўныя вырабы. Але не шмат хто ведае аб гэтым. А прызнанне іх здольнасцей, маральная падтрымка грамадства могуць даць ім сілы жыць, змагацца з хваробай.*

*Менавіта з гэтай мэтай у рамках сусветнага дзесяцігоддзя развіцця культуры, якое абвяўлена ААН і ЮНЕСКА, праводзіцца Рэспубліканскі фестываль творчасці інвалідаў «Творчасць — шлях да сябе». Яго арганізуе цэнтральнае праўленне Беларускага таварыства інвалідаў і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

*Яшчэ адна мэта фестывалю — выяўленне новых імёнаў, а таксама стварэнне ўмоў і магчымасцей для творчых зносін паміж гэтымі людзьмі, прапаганда іх творчасці.*

*Фестываль прайшоў ва ўсіх абласных цэнтрах рэспублікі. А заўтра пачынаецца ў Мінску. Але ён мае патрэбу ў спонсарах, дабрачынных узносах. Сродкі неабходны для набыцця матэрыялаў майстрам дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, халстоў і фарбаў мастакам, для іншай дапамогі.*

*... І хаця ўсе ўдзельнікі фестывалю — інваліды — і маюць тыя ж клопаты, што і мы, але жывецца ім у сто разоў цяжэй. Без дапамогі нашай ім не абысціся.*

■ У КАЛІДОРАХ УЛАДЫ

## ПРЫЙШОЎ ЧАС, І ШУШКЕВІЧ СКАЗАЎ АМАЛЬ УСЁ, ШТО ДУМАЕ З ГЭТАЙ НАГОДЫ

Максім ГРЭК, «ДВ».

Супрацьстаянне паміж лідэрам дзяржавы Станіславам Шушкевічам і лідэрам урада Вячаславам Кебічам узнікла не сёння. Яно, як напружанне ў навальнічных аблоках, з'явілася ў той самы момант, калі таварыш Дземянцей саступіў месца Старшыні ВС свайму дэмакратычнаму намесніку, і, так бы мовіць, палітычная арыентацыя дзяржаўнага кіраўніка памянялася на прама адваротную. Чаго, на вялікі для краіны жаль, з палітычнай арыентацыяй кіраўніка выканаўчай улады так і не адбылося.

Сітуацыя з павышанай іскрыстасцю ў кіруючых колах ускладнілася тым, што колы гэтыя сталі кіраваць новай дзяржавай — суверэннай Рэспублікай Беларусь. Новыя рэаліі патрабавалі новых поглядаў, новых захадаў і рашэнняў, новых метадаў кіравання з боку выканаўчай улады краіны. І прымаўка пра старога каня, які баразну не псуе, на гэты раз не апраўдалася. Колы з разбітай дарожкі савецкай эканомікі на пракатаны шлях сусветнай цывілізацыі гэты конь не выцягнуў. Ды, бадай, і жадання асаблівага не было.

Словам, ужо праз невялікі час пасля сумеснага падпісання дакументаў аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў прэм'ер-міністр краіны зразумеў, што зрабіў нешта не тое, і пачаў весці прадуманую мэтанакіраваную дзейнасць па выпраўленню сваіх памылак.

Канфрантацыя магла б адразу ж набыць адкрыты характар. Магла, але не набыла, бо час для таго яшчэ не прыйшоў. Тлумачыцца гэта дзвюма прычынамі — нявопытнасцю ў палітычных гульнях прафесара Шушкевіча і яго прыхільнасцю да памяркоўнасці, з аднаго боку, і надта ж вялікім вопытам каманды прэм'ера — з другога.

У той час, як Шушкевіч шукаў згоды ды кампрамісаў і на шматлікія прапановы прэсы ды сваіх жа калег-дэпутатаў даць ацэнку дзеянням урада адказваў дэманстрацыяй поўнага ўзаемаразумення з апошнім, прадстаўнікі выканаўчай улады дзейнічалі.

Па-першае, быў умацаваны сам Савет Міністраў. Мноства народных дэпутатаў знайшлі там сабе работу. У выніку ўсялякіх рэфармаванняў міністры, абраныя на свае пасады Вярхоўным Саветам, аказаліся ў падпарадкаванні начальнікаў упраўленняў, зацверджаных асабіста Вячаславам Кебічам. У апараце Саўміна знайшлося нямала цёплых крэсел для «старой гвардыі», якая, саступіўшы свой будынак Вярхоўнаму Савету, хуценька пераехала ў не менш камфартабельны Дом урада. А сёння ці не адзінай галіной, у якой не пагражае скарачэнне штатаў, стаў непамерна вялікі апарат кіравання.

Па-другое, была створана такая сістэма фінансавання і ўтрымання сродкаў масавай інфармацыі, што яны аказаліся ў поўнай залежнасці ад выканаўчай улады. Адны , кшталту «Рэспублікі» альбо тэлерадыёкампаніі, вымушаны гаварыць выключна тое, што ім дазваляюць, другія, кшталту «ЛіМа» альбо «Культуры», ці не штодзённа атрымліваюць папрокі за крытыку дзеянняў урада — маўляў, мы вас фінансуем, а вы на нас сварыцеся. Тое, што грошы гэтыя не ўрадавыя, а народныя, у разлік чыноўнікамі не бярэцца, і сёння, наколькі мне вядома, над большасцю падобных фармальна незалежных ад Саўміна выданняў вісіць вельмі рэальная пагроза значнага скарачэння фінансавання.

Па-трэцяе, пачалася кампанія па прапагандзе некаторых асобаў Саўміна ў залік будучых выбараў. Мы ўжо звярталіся да гэтай тэмы і паўтарацца сэнсу няма. Адзначу, бадай, што апошнім часам гэтая кампанія набыла асабліва вялікі размах. Справа даходзіць нават да недарэчнасцей. Так, у тэлевізійным круглым стале, які БТ мела гонар трансліраваць некалькі дзён таму, Уладзімір Іскрык (дарэчы, кажуць, саветнік Старшыні Савета Міністраў па культурных пытаннях) не пасаромеўся назваць важкім асабістым укладам у нацыянальнае адраджэнне візу прэм'ера, якая дазволіла вылучыць сродкі на выданне некалькіх беларускіх кніжачак. Так і хочацца ўсклікнуць — «Родина вас не забудет!».

(Пачатак. Заканчэнне на 2-й стар.)

■ НЕ МОЖЕТ БЫТЬ!

## КОНЕЦ КОНФРОНТАЦИИ ПРОМЫШЛЕННИКОВ И ПРАВИТЕЛЬСТВА?

Тамара МАРКИНА, «ДВ».

«Наконец!» — вздохнули директора предприятий, входящих в Белорусскую научно-промышленную ассоциацию. Почти на каждом своем Совете они предпринимали массу усилий, чтобы добиться от правительства и Верховного Совета шагов по созданию единого экономического пространства СНГ, сносных условий для работы промышленности. Чаяния промышленников понятны: львиную долю сырья и комплектующих поставляют Россия, Украина и другие страны бывшего Союза. Они же — и главный рынок сбыта.

И вот позавчера на очередной Совет БНПА приехал сам Председатель Совета Министров В.Ф.Кебич. Да прибыл Вячеслав Францевич не просто посидеть и послушать руководителей промышленности. Он проанализировал экономическую ситуацию, в которой находится республика ныне, сделал откровенный прогноз тех тяжелых моментов, которые нам придется пережить к концу года. Шел разговор и о нефти, и о газе, и об электроэнергии, и о вхождении в рублевую зону.

Бальзамом на сердца присутствующих были слова премьера о намерении правительства снизить налоги на добавленную стоимость — налогообложение всегда было камнем преткновения в отношениях промышленников и правительства.

С интересом было выслушано сообщение о финансовом положении республики, путях его стабилизации. С ним ознакомил присутствующих председатель правления Национального банка С.А.Богданкевич.

Социальная защита трудящихся — тема выступления заместителя председателя Белсовпрофа Д.Мароча.

Советом БНПА принято обращение к российскому правительству в лице В.С.Черномырдина. Оно было отягощено просьбой кредита на покрытие платежного баланса в размере 500 миллиардов рублей.

С подачи премьера прошение решено продублировать аналогичной просьбой к Верховному Совету России. Просители действовали наверняка: пятьсот не пятьсот, но хоть сколько да ссудят.

Более подробно о заседании Совета Белорусской научно-промышленной ассоциации мы расскажем несколько позже.

■ ДЕЛОВОЙ МИНСК

## ВЕСЬ КИТАЙ ПОД КРЫШЕЙ «МИНСКЭКСПО»

Соб. инф. «ДВ».

**Белорусский экспорт в Китай составляет более 30 млн. долларов в год: это автомобили, тракторы, промышленное оборудование, минеральные удобрения и др. Из Китая к нам поставляются рис, сахар, одежда и обувь, разнообразные товары народного потребления. Приобретая китайскую экспортную продукцию, Беларусь может найти в КНР хороший рынок сбыта для своих товаров.**

**Об этом шел вчера разговор во время посещения китайской торговой выставки Председателем Верховного Совета Беларуси С.Шушкевичем. Кроме него с экспозицией ознакомились председатель Госкомвнешэкономсвязи В.Радкевич, министр торговли В.Байдак, председатель Торгово-промышленной палаты В.Лесун, председатель Мингорисполкома А.Герасименко, работники министерств и ведомств, руководители государственных предприятий, предприниматели. Здесь побывали и многие иностранные дипломаты.**

**Событие приобрело и политическое значение. «Впервые наша страна проводит в Беларуси выставку такого масштаба, — отметил посол КНР в Беларуси Ван Синда, — это свидетельствует, что правительство КНР придает большое значение развитию отношений с Беларусью». Между обеими странами уже заключен ряд важных соглашений в области экономики. И во время нынешней выставки, которая продлится до 27 сентября, кроме контактов между предприятиями ожидается подписание соглашения о сотрудничестве Торгово-промышленной палаты Беларуси и Китайского комитета по содействию развитию международной торговли. Между прочим, прозвучали многочисленные предложения провести в КНР большие и представительные выставки товаров из Беларуси.. Ведь сумели же китайские партнеры собрать производственные достижения огромной страны под одной крышей.**

### КАЛЯНДАР

Чацвер, 23 верасня

*СОНЦА — 6.56/19.08.*

*Даўжыня дня — 12.12.*

*МЕСЯЦ — першая квадра 22 верасня, узыход — 15.28/захад — 23.18.*

### ІМЯНІНЫ

*Сёння:*

*Праваслаўныя — Паўла, Пульхерыі.*

*Каталіцкія — Тэклі, Багуслава, Ліна.*

*Заўтра:*

*Праваслаўныя — Фядоры, Сяргея, Германа, Дзмітрыя.*

*Каталіцкія — Гэрарда, Тодара.*

### НАШ ГАРАСКОП

*У 3 гадзіны 4 мінуты Сонца ўступае ў сузор'е Шалі. Камень сузор'я — рознакаляровы апал высакародны, сімвал надзеі. Займеннікі апалу — турмалін, яшма.*

*Віншуем усіх Шаляў!*

■ АКТУАЛЬНО

### Курс доллара и рубля на 21 сентября (скупка — продажа)

*Рига (за лат)*

PAREX и меняльные конторы:

Доллар США — 0,613 — 0,633

Российский рубль (за 1000 руб.) — 0,51 — 0,60

Черный рынок:

Доллар США — 0,62 — 0,65

Российский рубль (за 1000 руб.) — 0,55 — 0,61

*Киев (за карбованец)*

Коммерческие банки:

Доллар США — 13500 — не продавался

Российский рубль — 7,8 — не продавался

Черный рынок:

Доллар США — 12500 — 13500

Российский рубль — 11 — 12

*Санкт-Петербург*

Коммерческие банки:

Доллар США — 1300 — 1350

Черный рынок:

Доллар США — 1300 — 1350

*Минск (за расчетные билеты)*

Комбанк «Комплекс»:

Доллар США — 2200 — 2370

Черный рынок:

Доллар США — 2240 — 2420

Российский рубль — 1,5 — 1,6 «зайчиков»

■ ГОВОРЯТ

## ЖИЗНЬ БУДЕТ СЛАДКОЙ

**В республике начинается сезон переработки сахарной свеклы. Сможет ли продукция нынешней переработки «сбить» сахарный дефицит? На вопрос корреспондента РИДа отвечает заместитель президента Белорусского концерна пищевой промышленности Петр Чигринов:**

**— В этом сезоне, по предварительным данным, мы переработаем 1 миллион 800 тысяч тонн сахарной свеклы, что по самым скромным подсчетам позволит получить не менее 180 тысяч тонн сладкой продукции. Это несравнимо выше уровня прошлого года. Так что если дефицит сахара и останется, он будет не таким острым.**

**Остается добавить, что четыре крупнейших «сахарных» предприятия республики приступят к работе в конце месяца.**

**Анатолий РОМАНОВИЧ, РИД.**

■ СПОРТ-ПАНАРАМА «ДВ»

### *АЛІМПІЯДА-2000*

Сёння на сесіі Міжнароднага алімпійскага камітэта ў Монтэ-Карла будзе названа алімпійская сталіца 2000 года. Прэтэндэнтаў засталося пяць: Берлін, Манчэстэр, Пекін, Сідней і Стамбул. Былі яшчэ, як вы, пэўна, памятаеце, Ташкент (але розум перамог і сваю заяўку ўзбекі адклікалі), Бразілія і Мілан. Як і ў любым спаборніцтве, тут ёсць фаварыты. Бадай што, перш за ўсё гэта Пекін і Берлін. Але пачакаем да вечара.

Дарэчы, 23 верасня канчаецца тэрмін паўнамоцтваў прэзідэнта МАК. Хуан Антоніа Самаранч, якому ўжо 73 гады, заявіў, што добра адчувае сябе на гэтай пасадзе, якая яго не абцяжарвае. Ці выберуць Самаранча ў трэці раз?

### *ФУТБОЛ*

*На гэты раз міні. Учора ў Палацы лёгкай атлетыкі СКА стартаваў ужо пяты чэмпіянат Беларусі па міні-футболу. 12 каманд з 6 гарадоў згуляюць усяго 6 тураў. Пасля гэтага шасцёрка лепшых вызначыць уладальнікаў узнагарод. Ад Мінска ўдзельнічаюць — «Будзаказ», «Менск», «Атлант», «Пластык», «Эліта». Тур гэты завершыцца ў нядзелю, 26-га. Пачатак гульняў штодня ў 12.00, акрамя апошняга дня, калі пачнуць з 9.00. Наступны тур у кастрычніку ў Гомелі.*

### *ВАЛЕЙБОЛ*

Заўтра ў Чэхіі стартуе фінальная частка чэмпіянату Еўропы сярод жаночых каманд. У аўторак туды выехалі і 12 лепшых беларускіх валейбалістак. 9 з іх прадстаўляюць мінскую каманду «Амкадор», а 3 — клубы Францыі, Турцыі, Швейцарыі. На першым этапе нашымі сапернікамі будуць зборныя Румыніі, Расіі, Украіны, Германіі, Грэцыі. Дзве лепшыя каманды прадоўжаць барацьбу за медалі.

КРИМИНАЛ

### *И СНОВА ПЬЯНЫЕ РАЗБОРКИ*

Скоро месяц, как на Беларуси принят эдакий антиалкогольный указ. Судя по столице, это постановление возымело действие Порядка стало больше и на улицах спокойнее. Но стойких поклонников Бахуса такая мера, может, только распалила... В прошедшую субботу двое из них подняли руку с ножом (а будь в ней пистолет?) на своих собутыльников. В первом случае отличился гражданин М., пенсионер, проживающий по улице Лынькова. Во дворе своего дома во время ссоры он нанес удар ножом в спину своему напарнику. Тому была оказана медицинская помощь, но от госпитализации он отказался. Другой инцидент произошел ближе к вечеру в квартире одного из домов по улице Любимова. Здесь повздорила подвыпившая молодежь. Самым сильным доводом оказался... удар ножом в живот. Потерпевший помещен с проникающим ранением в больницу. Вот я и говорю: от такой дружбы до ненависти одна бутылка...

### *САМ СЕБЯ НАКАЗАЛ*

Утром того же дня в Заводской РОВД обратилась гражданка преклонных лет (27-го года рождения). По ее словам, над ней надругался и избил юнец лет 20-23. Сейчас бабушка помещена в больницу с переломом голени. Молодого же извращенца, которого задержали, в итоге ожидают тюремные нары. А как там встречают-привечают насильников, ни для кого не секрет...

Анатолий БЕЛОУС, «ДВ».

■ ЭХО СОБЫТИЯ

## УЧЕНИЯ ПРОШЛИ В РЕЖИМЕ ЭКОНОМИИ ГСМ

Белорусская национальная армия провела очередное тактическое учение по отработке принятой структуры формирования Вооруженных Сил республики на основе высокомобильных бригад.

В течение трех суток штабы и подразделения Н-ской механизированной бригады отрабатывали планирование, организацию маршей и боевые действия частей различных видов войск, входящих в состав и приданных соединению. Учение проводилось при строгом соблюдении режима экономии горюче-смазочных материалов и других материальных средств, которые были жестко лимитированы из сбереженных ранее ресурсов Министерства обороны республики.

НА СНИМКАХ: над позициями кружат вертолеты; к нанесению «ответного удара» готовится минометный расчет (слева направо): Андрей Миронов, Валерий Бычко и Василий Романовский; механик-водитель БМП Владимир Артют.

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.





